# Прграма і Статут

## Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі (Б. Х. Д.).

*(Зацьверджана на Зьезьдзе дня 13.XII.1931 г.).*



Вільня 1932 г.
Выдавецтва Ц. К. — Б. Х. Д.

# ПРАГРАМА
# Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі.

*(Перагледжаная і зацьверджаная на Зьездзе дня 13.XII.1931 г. ў Вільні).*

## I. Палітычныя мэты.

§ 1. БХД, стоячы на грунце самастанаўленьня народаў, імкнецца да самастойнасьці Беларускага Народу на ўсіх яго землях, аб'яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку.

## II. Адносіны да суседзяў.

§ 2. БХД лічыць сваім ідэалам добрасуседзкія адносіны з усімі народамі на падставе сапраўднай вольнасьці і роўнасьці.

§ 3. З пагляду палітычнага і гаспадарчага БХД ўважае карысным, каб незалежная Беларуская Рэспубліка ўвайшла ў эканамічны і палітычны саюз з суседнімі народамі, з якімі лучаць яе супольныя інтарэсы.

## III. Шлях да мэтаў.

§ 4. БХД да сваіх мэтаў ідзе дарогай арганізаваньня, усьведамляньня і ўзгадаваньня беларускага сялянства, работнікаў і інтэлігенцыі на грунце хрысьціянска-дэмакратычных ідэалаў і беларускай народнай культуры. Дзеля гэтага БХД рупіцца закладаць бела-



рускія школы, народныя дамы, ладзіць лекцыі, рэфэраты, зьезды, выдае газэты і інш.

БХД прыймае ўдзел у дзяржаўных і самаўрадавых выбарах, ідучы шляхам палітычнага і соцыяльнага змаганьня да незалежнасьці і самастойнасьці Беларускага Народу, да свабоды яго культурнага і эканамічнага разьвіцьця.

## IV. Самаўрады.

§ 5. БХД уважае, што гмінныя, паветавыя і ваяводзкія самаўрады ў сваіх мяйсцовых справах павінны быць незалежнымі ад цэнтральных і мяйсцовых адміністрацыйных уладаў.

§ 6. Да компэтэнцыі самаўрадаў належаць справы самаўрадавыя: адміністрацыйныя, гаспадарчыя, школьныя, зямельныя, апека над сіротамі, хворымі, калекамі, беднымі і г. д.

§ 7. Самаўрады маюць свой бюджэт. Недахват гэтага бюджэту на вышэйазначаныя мэты (§ 6) пакрывае дзяржава.

§ 8. Самаўрады выбіраюцца агульным, простым, тайным, роўным і пропорцыянальным галасаваньнем.

§ 9. Выбары ў самаўрады павінны адбывацца свабодна, бяз ніякага націску з боку адміністрацыйных уладаў.

## V. Войска.

§ 10. БХД змагаецца з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

§ 11. Вучэньне народнай міліцыі павінна адбывацца на мяйсцох і ў вольным ад гаспадарскіх работ часе.





## VI. Палітычная і грамадзкая свабода.

§ 12. Усе грамадзяне павінны быць роўныя перад правам.

§ 13. Павінна быць поўная свабода сходаў, друку, слова, сумленьня, арганізацыі таварыстваў і прафэсыянальных саюзаў.

§ 14. БХД дамагаецца поўнай свабоды выбараў у дзяржаўныя ўстановы.

§ 15. Кожная нацыянальнасьць мае права карыстацца сваей мовай у агульна-грамадзкім і палітычным жыцьці.

## VII. Суд.

§ 16. Суд павінен быць незалежны ад палітычных кірункаў і ад адміністрацыі.

§ 17. Міравыя суды складаюцца з выбранага народам судзьдзі і таксама выбраных лаўнікаў.

§ 18. Ува ўсіх важнейшых угалоўных і палітычных справах прыгавары пастанаўляюцца судамі прысяжных.

§ 19. Палявыя (надзвычайныя) суды павінны быць скасаваны.

§ 20. БХД—проціў кары сьмерці.

## VIII. Школа.

§ 21. Пачаткавае навучаньне абавязкавае для ўсіх, бясплатнае і ў роднай мове вучняў.

§ 22. Навучаньне прыватнае карыстаецца такімі-ж правамі, як і ўрадавае.

§ 23. Аднальковая дапамога ўрадавая як школам прыватным, так і ўрадавым.

§ 24. Навучаньне рэлігіі кожнага вызнаньня адбываецца абавязкава, як у школах урадавых, так і прыватных, у роднай мове вучняў.

§ 25. Закладаньне народных унівэрсытэтаў і зашкольная асьвета — на кошт дзяржавы.

§ 26. Незалежнасьць школьных уладаў і школьнага навучаньня ад уладаў адміністрацыйных.

## IX. Рэлігія.

§ 27. Касьцёл (Царква) у сваім унутраным жыцьці карыстаецца з поўнай свабоды і кіруецца кананічным правам.

§ 28. Касьцёл (Царква) у жыцьці грамадзкім карыстаецца з усіх правоў палітычных і грамадзкіх нароўні з іншымі ўстановамі і грамадзянамі дзяржавы і спаўняець такія-ж самыя абавязкі, як і ўсе грамадзяне дзяржавы.

§ 29. БХД прынцыпова проціў разьдзелу Касьцёла (Царквы) ад дзяржавы і змагаецца з палітыкай выкарыстоўвуючай рэлігію для палітычных мэтаў, або паддзержываючай адну рэлігію проціў другой.

§ 30. Спрэчныя справы між Касьцёлам (Царквой) і дзяржавай вырашаюцца палюбоўна, дарогай узаемных дагавораў і ўступак.

§ 31. БХД, у межах кананічнага права, у жыцьці касьцельным (царкоўным) на беларускіх землях змагаецца за поўныя правы беларускай мовы.

§ 32. БХД змагаецца за тое, каб жанімства і агулам справы сям'і апіраліся на асновах хрысьціянскай маральнасьці.

## X. Прыватная ўласнасьць.

§ 33. БХД прызнае, што прыватная ўласнасьць ёсьць падставай цывілізацыйнага поступу грамадзянства. Аднак уважае, што

ўласнасьць, зграмаджаная ў вялікай меры ў прыватных руках, ёсьць крыўдай для працоўнага народу і дзеля гэтага БХД змагаецца з абшарніцтвам і капіталізмам.

§ 34. БХД пераканана, што прыватная ўласнасьць, абапёртая на працоўнай норме, даючы ня толькі правы, але накладаючы і грамадзкія абавязкі, памагае выпрабленьню ў людзях ініцыятывы, самавітасьці і грамадзкай свабоды.

§ 35. БХД не працівіцца, каб прыватная ўласнасьць, калі гэтага вымагае дабро шырокіх працоўных масаў, пераходзіла ў формы колектыўныя (грамадзкага валаданьня). Аднак БХД проціў такой колектывізацыі, якая накідваецца згары і праводзіцца сілаю.

§ 36. БХД уважае, што ўсе рэформы прыватнай уласнасьці павінны праводзіцца згодна з інтарэсамі беларускай народнай эканомікі.

## XI. Зямля.

§ 37. Асновай зямельнай гаспадаркі служыць працоўная норма.

§ 38. Усе землі, перавышаючыя працоўную норму, перадаюцца на ўласнасьць і бяз выкупу беззямельным і малазямельным сялянам.

§ 39. Працоўную норму зямлі становіць такі лік дзесяцін, які гаспадар можа абрабіць сам, з сваей сям'ёй, або так-жа пры помачы аднаго-двух наймітаў у тым выпадку, калі ў якой сям'і, з прычыны малалецтва дзяцей, старасьці, хваробы, калецтва, удоўства з малымі дзяцьмі і г. п. недахват рабочых сілаў для абрабляньня працоўнай нормы.

§ 40. Мясцовыя самаўрады могуць мець запас зямлі, як народную ўласнасьць, для мэтаў агульна-грамадзкіх.

## XII. Упарадкаваньне зямлі.

§ 41. БХД змагаецца за такое ўпарадкаваньне зямлі і за такую зямельную гаспадарку, якая давала-б найболей даходу грамадзянству і дзяржаве. Такою гаспадаркай БХД лічыць працу на хутарах або на суцэльных зямельных надзелах (адрубах), якія-б злучылі ў вадну гаспадарчую цэласьць усе шнуры і нарэзкі.

§ 42. Пераход на хутары або на злучаныя надзелы (адрубы) праводзяць сялянскія зямельныя камісіі пры самаўрадах, за згодаю самых сялян, прычым малазямельныя гаспадаркі павінны быць дапоўнены.

§ 43. Сяляне, разам з зямельнай камісіяй, пастанаўляюць, ці перайсьці на хутары, ці аставіць вёску і будынкі на мейсцы, а толькі злучыць у адзін кавалак (адруб) усе шнуры, ці разьбіць вёску на некалькі пасёлкаў— залежна ад мяйсцовых гаспадарчых варункаў.

§ 44. На загаспадараваньне пры пераходзе на хутары павінна быць дадзена патрэбная помач ад ураду грашмі, інвэнтаром, дрэвам. Наагул усе работы, што да землеўпарадкаваньня, павінны праводзіцца на кошт дзяржавы.

§ 45. БХД імкнецца да палепшаньня гаспадарчага палажэньня вёскі праз пашырэньне земляробскай культуры, сельска-гаспадарчай коопэрацыі, павялічэньня абшару ўпраўнай зямлі, а прадусім—асушкі балот і лугоў. Дзеля гэтага БХД руліцца аб закладаньні земляробскіх школаў, агранамічных пробных станцыяў, інструктарскіх пунктаў і г. д.

§ 46. Сяляне, для палепшаньня сваей гаспадаркі, павінны мець магчымасьць кары-

стацца з малапрацэнтнага і доўгатэрміновага крэдыту.

§ 47. БХД стаіць за справядлівыя цэны на прадукты сялянскія і фабрычныя. БХД проціў выкарыстываньня вёскі горадам і наадварот.

## XIII. Прыродныя багацьці.

§ 48. Лясы, воды, падземныя багацьці і інш., праз увагу на сваю агранічанасьць і агульна-грамадзкае значэньне, становяць уласнасьць самаўрадаў.

§ 49. На апал і будоўлю сялянскія Зямельныя Камісіі пры самаўрадах вызначаюць патрэбны лік лесу. Лясная палітыка дзяржавы павінна забясьпечыць грамадзянству таннае паліва і будаўляны матэрыял.

## XIV. Асадніцтва.

§ 50. Чужацкае ваеннае асадніцтва і такая-ж прыватная колёнізацыя беларускіх зямель, як цалком несправядлівыя, павінны быць скасаваны.

## XV. Работніцкія справы.

§ 51. БХД змагаецца за:

a) 8-гадзінны дзень працы;
b) права страйку, як абарону ад вызыскаў;
c) колектыўныя ўмовы дзеля забясьпечаньня лепшай аплаты;
d) забарону ночнай працы (вынятак там, дзе вымагаюць варункі тэхнічныя, або патрэбы грамадзкія);
e) забарону працы шкоднай здароўю кабеты;
f) забарону працы дзяцей у фабрыках да 16 гадоў;

g) дзяржаўнае страхаваньне работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва, безрабоцьця і на старасьць;

h) законнае прызнаньне фабрычных работніцкіх камітэтаў з правам учасьця іх у наглядзе за прадукцыяй і даходам у фабрыках, якія перайшлі ў колектыўныя формы валаданьня;

i) нядзельны адпачынак;

j) праўную апеку над працоўнымі на зямлі, у фабрыках і над хатняй службай — адумысловым уставадаўствам.

## XVI. Падаткі.

§ 52. Мерай падаткаў для промыслу і гандлю павінен быць даход. Дзеля гэтага, хто больш мае даходу, той прагрэсыўна больш плаціць і падаткаў. Сяляне плацяць залежна ад працоўнай нормы і катэгорыі зямлі, а гараджане—ад сваей маемасьці. Катэгорыю зямлі ўстанаўляюць сялянскія Камісіі пры самаўрадах, а ацэнку маемасьці ў гарадох—такія-ж камісіі, складзеныя з гараджан.

§ 53. Усе падаткі пасрэднія (укосныя), як на соль, газу, цукар і інш. павінны быць скасаваны.

§ 54. Павінен быць уведзены адзіны падатак, гэта знача такі, які-б вызначаўся раз у год на адным наказе з разлажэньнем на раты і з азначэньнем тэрміну.

§ 55. Даход, патрэбны толькі на пражыцьцё, павінен быць ад падаткаў зусім звольнены.

§ 56. Збіраньне падаткаў павінна адбывацца справядліва, на аснове адумысловых законаў і павінна быць уведзена срогае караньне за падаткавыя надужыцьці.

## XVII. Коопэрацыя.

§ 57. БХД стаіць за пашырэньне спажывецкай, вытворчай, крэдытнай коопэрацыі (коопэратыўныя крамы, малачарні, аляярні, льнярні, пазычкова-ашчадніцкія касы і г. д.) і дамагаецца на гэта шырокіх дзяржаўных крэдытаў.

§ 58. БХД дамагаецца, каб дзяржаўныя крэдыты йшлі на беларускія коопэратыўныя і гаспадарчыя арганізацыі і каб урад праводзіў краёвую эканамічную палітыку, з тым, каб капіталы аставаліся ў краі.

## XVIII Дапамога пакрыўджаным вайной.

§ 59. БХД дамагаецца: а) каб зьнішчаныя вайной гаспадаркі былі неадкладна адбудаваны на кошт дзяржавы і b) каб неадкладна былі прызнаны інвалідзкія рэнты для ўсіх ваенных інвалідаў, іхных удоваў і сірот.



# Arhanizacyjny Statut Biełaruskaj Chryścijanskaj Demokracyi.

## I. Siabry BChD.

§ 1. Siabram BChD moža być kožny sielanin, rabotnik i intelihient, jaki — wiedajučy dobra prahramu BChD—nia tolki zhadžajecca z hetaju prahramaju, ale tak·ža hatoŭ pracawać nad stwareńniem świadomaj sarhanizawanaj chryścijanska-demokratyčnaj siły i pačuwaje siabie hatowym na ŭsiakija trudy, z pracaj hetaj źwiazanyja.

§ 2. Abawiazkam kožnaha siabra BChD źjaŭlajecca:

a) wykonywać usialakija arhanizacyjnyja rasparadžeńni, atrymanyja ad partyjnych uładaŭ, a taksama pryjmać partyjnyja stanowiščy, na jakija budzie wybrany;

b) apłačywać partyjnuju składku, raźmier jakoj wyznačaje sam pawodle ŭłasnaha razumieńnia i mahčymaści;

c) čytać i apłačywać hazety, wydawanyja BChD, a taksama pastajanna znachodzić dla ich nowych čytačoŭ i padpiščykaŭ;

d) mieć partyjny bilet.

§ 3. Kožny siabra BChD maje prawa:

a) pryjmać učaście na schodach i źjezdach BChD;

b) wybirać i być wybiranym na ŭsie stanowiščy ŭ partyjnaj arhanizacyi.

§ 4. Siabry BChD pryjmajucca miajscowaj arhanizacyjaj abo wyšejšymi partyjnymi ŭładami.

§ 5. Nichto z siabroŭ BChD nia moža naležać da inšych palityčnych partyjaŭ. Kali-b heta stałasia, taki siabra aŭtomatyčna wyklučajecca z BChD.

§ 6. Kali-b chto z siabroŭ BChD nia wykanaŭ biez dawiedzienaj pryčyny jakoha niebudź z pryniatych na siabie abawiazkaŭ, abo zaplamiŭ-by siabie pastupkam, panižajučym hodnaść čaławieka i chryścijanina, dyk hetki siabra na peŭny čas pazbaŭlajecca prawoŭ siabra BChD abo zusim wyklučajecca z partyi. Pazbawić prawoŭ siabra BChD moža kožnaja miajscowaja arhanizacyja. Wyklučyć z BChD maje prawa tolki Centralny Kamitet. Hetaje swajo prawa Centralny Kamitet moža pieradawać i daručać inšym partyjnym uładam.

Pazbaŭleny na peŭny čas prawoŭ siabra BChD maje prawa ŭ praciahu miesiaca abžaławać pastanowu miajscowaj arhanizacyi ŭ Centralny Kamitet, jaki i wyrašaje tady akančalna hetuju sprawu.

## II. Miajscowaja arhanizacyja.

§ 7. Siabry BChD, jakija pražywajuć u adnej ci niekalkich susiednich wioskach, stwarajuć partyjny Hurtok. U wialikšych miastečkach i haradoch rajonnyja Hurtki BChD mohuć łučycca ŭ adzinuju Haradzkuju arhanizacyju BChD.

§ 8. Hurtok wybiraje swoj Kamitet, składzieny z troch asob: staršyni, sekretara i skarbnika. Kamitet wystupaje ad imia Hurtka zhodna z pastanowami Hurtka abo zhodna z rasparadžeńniem wyšejšych partyjnych uładaŭ.

§ 9. Schody Hurtka adbywajucca ŭ mieru patreby i sklikajucca z ułasnaj inicyjatywy Kamitetu, na žadańnie troch siabroŭ Hurtka abo na žadańnie wyšejšaj partyjnaj ułady.

§ 10. Da kampetencyi Hurtka naležyć:

a) pryjmo siabroŭ i pazbaŭleńnie ich prawoŭ;
b) wybar delehataŭ na partyjnyja źjezdy;
c) źbirańnie składak, partyjnych achwiaraŭ i padpiski ad siabroŭ na hazetu;
d) wyznačeńnie dla Kamitetu i paasobnych siabroŭ Hurtka prac arhanizacyjna-ahitacyjnych, asabliwa-ž pracy ŭ pašyrańni ahitacyjnych drukaŭ i ŭ znachodžańni nowych padpiščykaŭ hazety;
e) pryjmańnie sprawazdačaŭ ab dziejalnaści Kamitetu i paasobnych siabroŭ Hurtka;
f) wyznačeńnie kandydataŭ pry wybarach u hminnuju radu, kasu chworych, a taksama ŭwa ŭsiakija miajscowyja tawarystwy praświetnyja, haspadarčyja i hramadzkija;
g) razwažańni nad palityčnymi sprawami i pryjmańni pastanowaŭ jak ahulnych, tak i ŭ sprawach miajscowaha charaktaru.

§ 11. Adkaznym pierad partyjaj za pracu Hurtka źjaŭlajecca Kamitet Hurtka.

### III. Pawietawaja arhanizacyja.

§ 12. Siabry BChD, jakija žywuć u adnym pawiecie, składajuć arhanizacyju BChD danaha pawietu.

§ 13. Siabry BChD źbirajucca nia mienš adnaho razu ŭ 3 hady na Pawietawy źjezd.

§ 14. Pawietawy źjezd BChD sklikajecca Pawietawym Kamitetam:
a) pastanowaj Pawietawaha Kamitetu;
b) na žadańnie wyšejšaj partyjnaj ułady;
c) na žadańnie najmienš troch partyjnych Hurtkoŭ.

§ 15. Pawietawy źjezd:
a) wybiraje Pawietawy Kamitet u skła-

dzie staršyni, sekretara, skarbnika i dwuch kandydataŭ;

b) pryjmaje sprawazdaču ab dziejalnaści Kamitetu;

c) razważaje sprawy palityčnyja i wynosić u hetych sprawach swaje pastanowy;

d) wybiraje delehataŭ na partyjny Ahulny Źjezd.

§ 16. Zasiadańni Pawiet. Kamitetu wyznačajucca:

a) pastanowaj papiaredniaha zasiadańnia;

b) staršynioj Kamitetu z ułasnaj inicyjatywy abo na žądańnie dwuch siabroŭ Kamitetu;

c) na žadańnie wyšejšaj partyjnaj ułady.

§ 17. Da abawiazkaŭ Pawietawaha Kamitetu naležyć:

a) padhatoŭka i sklikańnie pawietawych źjezdaŭ;

b) kantralawańnie dziejalnaści miajscowych Hurtkoŭ;

c) wykonywańnie pastanowaŭ źjezdaŭ;

d) arhanizawańnie mitynhaŭ i palityčnych naradaŭ, kirawańnie palityčnaj dziejnaściaj na abšarach pawietu ŭ metach pahłybleńnia świadomaści biełaruskich sialanskich i rabotnickich masaŭ i pašyreńnia arhanizacyi;

e) składańnie Centralnamu Kamitetu sprawazdač ab partyjnaj dziejalnaści, a taksama ab palityčnym, kulturnym i haspadarčym žyćci ŭ pawiecie.

§ 18 Pawietawy Kamitet pawinien utrymliwać stałuju suwiaź z Kamitetami Hurtkoŭ i z Centralnym Kamitetam. Prezydyum wydaješ siabroŭskija bilety; kantraluje padpisku na hazetu i siabroŭskija składki, a taksama kantraluje pašyrańnie partyjnych drukaŭ.



Adkaznym pierad Centralnym Kamitetam za stan pracy ŭ pawiecie źjaŭlajecca Pawietawy Kamitet; hety-ž kamitet padaješ Centralnamu Kamitetu śpis usich siabroŭ BChD u pawiecie.

### IV. Akružnaja arhanizacyja.

§ 19. Centralny Kamitet, kali znojdzieć patrebnym, stwaraje Akružnyja Arhanizacyi BChD, złučajučy ŭ ich pa niekalki pawietawych arhanizacyj.

### V. Ahulny Źjezd.

§ 20 Najwyšejšaj uładaj BChD źjaŭlajecca Ahulny Źjezd. Ahulny Źjezd pastanaŭlaje ab usiej palityčnaj i arhanizacyjnaj dziejalnaści BChD, a taksama ab prahramie, taktycy i statucie, wybiraje Centralny Kamitet i Rewizyjnuju Kamisiju BChD, a tak-ža pryjmaje ad ich sprawazdaču.

§ 21. Ahulny Źjezd składajecca z pradstaŭnikoŭ partyjnych uładaŭ, z delehataŭ hurtkoŭ i pawietawych kamitetaŭ, a tak-ža z mužoŭ dawieru i partyjnych pracaŭnikoŭ i sklikajecca Centralnym Kamitetam nia mienš adnaho razu ŭ 3 hady. Na žadańnie najmieš 7 arhanizacyj pawietawych (źjezdaŭ ci pawietawych kamitetaŭ) Centralny Kamitet abawiazany sklikać Ahulny Źjezd u praciahu troch miesiacaŭ.

### VI. Rada BChD.

§ 22. Rada BChD składajecca: z siabroŭ Centralnaha Kamitutu Rewizyjnaj Kamisii, i 7-mioch pradstaŭnikoŭ pawietawych kamitetaŭ, abo mužoŭ dawieru, paklikanych Centralnym Kamitetam.

§ 23 U wypadku pilnaj patreby wyjawić stanowišča ŭsiaje BChD ŭ ważniejšych sprawach— Centralny Kamitet, ewentualna prezydyum Centralnaha Kamitetu, sklikaje Radu partyi.

§ 24. Rada partyi prymaje sprawazdaču z dziejnaści Centr. Kamitetu, wynosić pastanowy ŭ sprawach palityčnych i arhanizacyjnych, a ŭ wy-

padku pilnaj patreby wyrašaje ŭsie sprawy aznačanyja ŭ § 20 i prynaležnyja Ahulnamu Źjezdu.

§ 25. Pastanowy Rady na pieršym Ahulnym Zjeździe partyi paddajucca pad razhlad i mohuć być Źjezdam adkinieny.

## VII. Centralny Kamitet.

§ 26 Centralny Kamitet kiruje dziejalnaściu swaich pradstaŭnikoŭ i delehataŭ u dziaržaŭnyja, samaŭradawyja i hramadzkija ŭstanowy, dziejalnaściu Pawietawych Kamitetaŭ i ŭsich inšych arhanizacyj BChD.

§ 27. Centralny Kamitet składajecca z 9-cioch asob, jak siabraŭ, i 2-ch zastupnikaŭ, wybiraje z-pamiž siabie prezydyum u składzie 5-cioch asob: staršyni, 2-ch wicestaršyń, skarbnika i sekretara.

§ 28. Zasiadańni Centralnaha Kamitetu adbywajucca ŭ mieru patreby i sklikajucca staršynioju z jaho inicyjatywy, pa pastanowie prezydyumu abo na žadańnie troch siabroŭ Kamitetu.

§ 29. Dla wiadzieńnia paasobnych halin pracy Centralny Kamitet stwaraje addziely i wybiraje z ličby siabroŭ Kamitetu kiraŭnikoŭ hetych addziełaŭ.

§ 30 Zasiadańni Prezydyumu C. K. adbywajucca .ŭ mieru patreby. Na swaje zasiadańni Prezydyum maje prawa zaprašać kiraŭnikoŭ paasobnych addziełaŭ, siabroŭ C. K i mužoŭ dawieru z prawam daradčaha hołasu.

## VIII. Rewizyjnaja Kamisija.

§ 31. Rewizyjnaja Kamisija składajecca z troch siabroŭ i adnaho zastupnika, jakich wybiraje Ahulny Źjezd BChD.

§ 32. Rewizyjnaja Kamisija spraŭdžaje prychoda-raschodnuju knihu Centr. Kamitetu i robić sprawazdaču na Ahulnym Źjeździe BChD, abo prad Radaj partyi.

## IX. Partyjny sud.

§ 33. Nieparazumieńni pamiž siabrami BChD wyrašaje partyjny sud, jaki wyznačajecca kožny raz Centralnym Kamitetam u liku 5-cioch asob, na piśmiennaje žadańnie pakryŭdžanaha ci abražanaha siabry. Z hetych 5-cioch caławiek pakryŭdžany wybiraje sabie 3-ch, jakija i stanowiać partyjny sud, jaki wyrašaje biezapelacyjna ŭsie sprečki pamiž siabrami BChD.

## X. Finansy BChD.

§ 34. Finansy BChD składajucca:

a) z siabroŭskich składak;

b) sa składak pasolskich;

c) z dachodaŭ ad pradažy partyjnaje literatury;

d) z achwiaraŭ i dachodaŭ nadzwyčajnych.

§ 35. Pałowa siabroŭskich składak zastajecca ŭ arhanizacyi miajscowaj ci pawietawaj, druhaja-ž pałowa adsyłajecca ŭ Centralny Kamitet.

§ 36. Pawietawyja źjezdy majuć prawa ŭstanaŭlać dadatkowyja składki na specyjalnyja mety.

## XI. Pastanowy

§ 37. Pastanowy ŭsich partyjnych uładaŭ i sabrańniaŭ pryjmajucca zwyčajnaj bolšaściu hałasoŭ. Pastanowy-ž Ahulnaha Źjezdu (Rady) adnosna prahramy, abo Statutu BChD wymahajuć bolšaści 2/3 hałasoŭ delehataŭ, prysutnych na Ahulnym Źjeździe (Radzie).

## XII. Časowyja prawiły.

§ 38. U tych pawietach, dzie jašče nia stworany miajscowyja Hurtki i nia wybrany jašče Pawietawyja Kamitety, wiaduć arhanizacyjnuju pracu pradstaŭniki partyjnych uładaŭ, mužy dawieru BChD, naznačanyja Centralnym Kamitetam i pierad im adkaznyja.

